РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

КОШТ 3 РУБЛІ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №5, 8 ЛЮТАГА 1993 ГОДА.

СЁННЯ:



Міхал Казімір АГІНСКІ



стар. 4 — 5

Апалінэр. Каліграмы



стар. 6

Беларускі Галівуд



стар. 7

# Народнаму мастаку Беларусі Леаніду ШЧАМЯЛЁВУ споўнілася 70.



Уся шчодрасць душы і таленту гэтага чалавека — у яго шматлікіх работах, поўных святла і энергіі. Працавітасці і свежасці светаўспрымання майстра вытанчанага жывапісу могуць пазайздросціць і юнакі. На выставе, якая адкрылася днямі ў Палацы мастацтва — сотні яго новых работ. Няма сумнення, што нас яшчэ чакаюць сустрэчы з дзівосным светам фарбаў Маэстра.

Фота П. ЗУБРЫЦКАГА.

ДЫЯЛОГІ

# ... ЧАСТКА КРАІНЫ ЖЫВОЙ

**Доўгія гады імя Янкі Запрудніка, рэдактара газеты «Беларус», якая выходзіць у Амерыцы, асацыіравалася толькі з паняццем «вораг». А тымчасам гэта — гарачы патрыёт Бацькаўшчыны, доктар навук, чые працы зрабілі важкі ўклад у справу Беларушчыны.**

**Цяпер Янка Запруднік даволі часта бывае тут, на Беларусі. Летам ён прымаў удзел у Міжнароднай навуковай канферэнцыі ў Маладзечне, нядаўна зноў наведаў Менск.**

**Пісьменніца Вольга ІПАТАВА вядзе гутарку са сваім земляком — рэдактарам газеты «Беларус» Янкам ЗАПРУДНІКАМ.**

**В.І.** Спадар Запруднік, у сваіх інтэрв'ю Вы пераважна гаворыце пра сённяшнія нашы праблемы. Хацелася б, каб Вы расказалі пра сваю сям'ю, пра дзяцінства ў Міры.

**Я.З.** Я нарадзіўся ў Міры, на вуліцы Завальнай. Тады яна праз Высокую вуліцу даходзіла да Міранскай. Нумар нашай хаты быў 97-ы. Цікава, што ў Амерыцы я таксама жыву пад 97-м нумарам. Дзень нараджэння — 9 жніўня 1926 года. Бацькі —настаўнікі, але бацька не практыкаваў настаўніцтва, ён працаваў на сельскай гаспадарцы. Сям'я была вялікая: памятаю, калі садзіліся за стол, то ў нас збіралася чалавек 14. Дзед вырабляў сярпы, дзядзька — аўчынкі. Сям'я была не толькі сельскагаспадарчай, але і эканамічнай, кажучы сучаснымі тэрмінамі. Я скончыў 7-ы клас, як у верасні 1939 года прыйшлі так званыя вызваліцелі. З польскіх часоў (гэта доўга расказваць, але важна адзначыць) пан Баліцкі,- дырэктар нашай сямігадовай школы, на калідоры ставіў дзяжурных, заданнем якіх было рапартаваць яму, хто гаварыў па-беларуску. Ён пасля выклікаў таго ў канцылярыю і цягаў за вуха.

Сям'я у нас была грамадска-дзейная, бо мае дзядзькі і цёткі прымалі ўдзел у беларускіх п'есах. Я думаю, што яны былі звязаныя з «Грамадой». Я ўжо ў Нью-Ёрку бачыў у «Чырвонай змене» здымачак мірскога гуртка, там бел-чырвона-белы сцяг, «Пагоня». Калі выйшла «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», я даведаўся, што мой дзядзька Аляксей Вільчыцкі быў рэдактарам газеты «Беларуская справа», якая выходзіла ў Вільні ў годзе майго нараджэння — у 1926-м: першыя нумары газеты ад 1 да 21 рэдагаваў Аляксей Вільчыцкі. Недзе на пачатку 30-х гадоў ён пайшоў на Усход, і там сляды яго загінулі. (Цяпер ужо, як прыехаў, даведаўся, што ў мяне ёсць дзве стрыечныя сястры, якіх я ніколі не бачыў. Яны жылі ў Барысаве, таксама дзеці настаўнікаў. У нас, відаць, наогул гэта традыцыя, бо і маці мая была настаўніца.)

**В.І. ... Так загінула мноства светлых і шчырых беларусаў, а іншыя атрымалі наглядны ўрок: усё беларускае — смяротна небяспечна! Ці не таму да нядаўняга часу нават на тых, хто асмельваўся размаўляць па-беларуску, азіраліся на вуліцах, як на дзівакоў ці, таго горай, «нацыяналістаў»... А як Вы, спадар Запруднік, трапілі на Захад?**

**Я.З.** На Захадзе я апынуўся ў выніку забароны бальшавіцкімі партызанамі наведваць сярэднюю школу. Да чатырохкласнага ўзросту яшчэ можна было хадзіць у школу, а вышэй нямонна, таму што яны ведалі, што там узгадоўваецца моладзь у нацыянальным духу. А я паехаў вучыцца ў Баранавічы, у прагімназію, яшчэ і таму, каб мяне не забралі ў паліцыю. Апроч таго, я быў у Саюзе беларускай моладзі. Апынуўшыся ў Баранавічах далёка ад бацькоў са сваім сябрам Вадзімам Сурком, мы даведаліся, што ёсць магчымасць выехаць на Захад, паразважалі і вырашылі выехаць. Мне тады было семнаццаць гадоў, я ўжо 2 гады правучыўся ў Баранавічах, скончыў 4-ы клас прагімназіі. Немцы ж таксама не дазвалялі гімназіі, таму поўных сярэдніх школаў не было. Але нашы настаўнікі, працуючы ў цяжкіх умовах, рабілі, што маглі. У нашай прагімназіі працавалі Лявон і Юрка Луцэвічы. Я нядаўна ездзіў у Вільню пакланіцца ім, падзякаваць за добрую работу. Дык вось — скончыўшы 4-ы клас прагімназіі, я вучыўся у Гандлёвай школе, дзе скончыў трэці курс.

**В.І. Нам вельмі актыўна «ўбівалі» ў галовы, што і працаваць, і вучыцца ў школе ў часы акупацыі — «здрада Радзіме», «супрацоўніцтва з акупантамі». Але дзеці раслі, ім патрэбны былі веды... Можна зразумець тых людзей, якія, нягледзячы на ўсе акалічнасці, адчынялі беларускія школы, выхоўвалі патрыётаў сваёй зямлі.**

**Я.З.** У часы вайны ў Баранавічах была Гандлёвая школа, тэхнічнае і медыцынскае вучылішчы, яшчэ — ці не 5-6 вучылішчаў. Працаваць даводзілася ў цяжкіх умовах: з аднаго боку — нямецкая забарона даваць сярэднюю адукацыю, а з другога боку — партызаны таксама забаранялі школы — ужо дзеля сваіх меркаванняў.

**В.І. Вы апынуліся на Захадзе. А што сталася з Вашай сям'ёй?**

**Я.З.** Сям'я засталася тут, і я доўгі час пра яе нічога не ведаў. Пасля даведаўся, што бацька загінуў у 1945 годзе, яго пагналі капаць акопы пад Ваўкавыск. Ён быў хворы на жывот, меў хранічную язву. А на акопах ім патрэбна было выкапаць за дзень норму — 8 кубічных метраў зямлі.

**В.І. Гэта адбылося ў 1945 годзе. Значыць, яго па сутнасці забілі, толькі пасля вайны. З нашым народам чужынцы заўсёды абыходзіліся, як з рабочым быдлам — ва ўсе стагоддзі...**

**Я.З.** Гэта былі чужынцы асаблівыя — бальшавікі. А маці памерла ўжо у 80-х гадах. Яна пры першых Саветах працавала настаўніцай ў Сімакаве. Гэта па дарозе з Міра ў Гарадзею, я яе, памятаю, вазіў на фурманцы туды. На тыдзень завозіў і прывозіў. Дык вось — апынуўся я на Захадзе. Скончылася вайна. У Рэгенсбургу, а пасля ў Міхельсдорфе (гэта недалёка ад чэшскай граніцы), быў лагер для беларусаў, для перамешчаных асоб. Там былі Арсеннева, Кушаль, настаўнікі з Навагрудка — Ворсы, Аляксандр Ворса і Наталля Ворса, бацькі Алюнці Ворсы, якая прывозіла сюды «Васілёк», танцавальны ансамбль.

Там я скончыў гімназію ў 1947 годзе, працаваў скаўтмайстрам. А пасля 11 хлопцаў нас выехала з Міхельсдорфа, па дарозе падабралі 12-га, назваліся «дванаццаткай». Паехалі ў Ангельшчыну працаваць на шахты ў надзеі, што там, неяк зарабіўшы грошы, можна будзе далей вучыцца. Па дарозе ў Ангельшчыну замест таго, каб пісаць лісты сваім школьным сябрам, якіх мы пакінулі, мы пачалі выдаваць бюлетэньчык. Пасля з гэтага бюлетэньчыка, які мы назвалі «Наперад», вырасла ідэя часопіса.

Па дарозе мы падпісалі кантракт, што будзем трымацца разам, што не будзем жаніцца з чужынкамі. Такі вось быў юнацкі запал, энтузіязм.

**В.І. Гэта дапамагло Вам пасля?**

**Я.З.** Так... Мы трымаліся разам, у нас была свая каса, каб, калі нехта трапіць у бяду, яго выручаць. І там бралі ўдзел у грамадскай рабоце, бо там, у Лондане, было заснаванае Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі. Мы туды прыязджалі на з'езды, выдавалі свой часопіс. Выйшла 26 нумароў, з якіх тры апошнія — у Бельгіі. Бо калі там сфармавалася група беларускіх студэнтаў, для якіх знайшлі стыпендыі, то нам запрапанавалі прыехаць у Лювенскі універсітэт у Бельгію вучыцца. Нас дзевяцёх хлопцаў прыехала туды і там мы паканчалі кожны свой факультэт. Я скончыў гістарычны. У 1954 годзе я ажаніўся са студэнткай, бацькі якой былі з Нясвіжа, Волькай Харытончык. Мне запрапанавалі ехаць у Мюнхен працаваць на радыёстанцыю. Тады яна называлася яшчэ «Вызваленне», а не «Свабода». Я падумаў і згадзіўся; ад таго часу адпрацаваў 37 гадоў на радыёстанцыі «Свабода».

**В.І. Што Вам здаецца найбольш вызначальным для посткамуністычнага грамадства, якое нечакана апынулася ў суверэннай Беларусі?**

**Я.З.** Настальгія па камунізму. Але што такое быў гэты камунізм? У будынку ЦК быў рэстаран, і для тых, хто там еў, быў камунізм. Усё прыгожа, усяго ў дастатку. Але гэты дабрабыт быў забяспечаны вялікаю крывёю, вялікімі ахвярамі. Сёння кожнаму трэба пачынаць ад сябе, пачынаць задумвацца: хто мы ў гістарычным сэнсе? Цяпер адбываецца працэс яднання — гарызантальнага, геаграфічнага.

Сапраўды — беларуская нацыя цяпер ад Аўстраліі да Беларусі. Сюды прыязджаюць людзі з Аргенціны, з ЗША, з Канады —адусюль. Вам прыемна і радасна з імі сустракацца, і нам прыемна пачуць сябе арганічнай частачкай гэтага цэлага. У Арсенневай ёсць такія вершы:

*Варта жыць, варта*
*вечна чагось дамагацца,*
*Чуцца часткай краіны*
*малой, а жывой*

І гэтае пачуццё, адчуванне, што ты частка краіны малой, а жывой — гэта вялікая маральная сіла, яна дае стабільнасць нашаму духу.



На здымку: Я. Запруднік (злева) на сустрэчы ў Маладзечне.

---

## ЗАПРАСІЦЬ — ЗАПРАСІЛІ...

У апошнія дні ў газетах і па радыё прагучала абвестка аб вечарыне ў Доме літаратара, прысвечанай знакамітаму беларусу Данчыку. Вечарыны гэтага фан-клуба і без рэкламы збіраюць немалую грамаду. Запрасіць — запрасілі, а прапускалі толькі па запрашальных білетах, «бо зала была перапоўнена». Вось і атрымалася, што «многа пакліканых, але мала выбраных».

А людзі ішлі з дзеткамі, куплялі дарагія кветкі... То ці рызыкнуць яны яшчэ пайсці ў пэўнае месца да інтэлігентных людзей?

Т.ВОЮШ, безбілетніца.

## КАЛІ БАСТАВАЦЬ, ДЫК УСІМ І АДНАЧАСОВА!



Я паздзяляю думку А.Пікулік у лісце «Ці будуць баставаць бібліятэкары?» (№ 2.1993г.). Мы сапраўды пакрыўджаны больш за ўсіх спецыялістаў у галіне культуры.

Вось ужо дваццаць гадоў я жыву бібліятэчнымі праблемамі, абслугоўваю 750 чытачоў на вёсцы. Вельмі люблю сваю працу,сваіх чытачоў, добра ведаю праблемы работнікаў культуры на сяле.І цяпер мне вельмі крыўдна, што мы, бібліятэкары,сталі ахвярамі рынкавай эканомікі. Канешне, калі ахвяраваць дзеля вялікага, якое дапаможа ўсім людзям быць лепшымі, жыць сапраўды заможна, прыгожа, дык я згодна. Але надта сумняваюся, што мізэрныя заробкі бібліятэкараў павысяць узровень нашай духоўнасці, павагу да кнігі. Сёння мы павінны шукаць дадатковыя заробкі, каб выжыць. І хто ведае, можа, заўтра я кіну сваю любімую працу, займуся чымсьці іншым, больш прыбытковым... бізнесам, дзякуючы «клопатам» нашай дзяржавы.

Н.МАКІЯВЕЦ, в.Бярозавічы, Пінскі раён.

*(Заканчэнне. Пачатак у № 4.)*

Анджэй ЦЕХАНАВЕЦКІ, Лондан

# Міхал Казімір

## «ЗМАГАЎСЯ ЗА АЙЧЫНУ І ВЕРНА ЁЙ СЛУЖЫЎ...»

Грамадская дзейнасць гетмана пасля яго вяртання ў Слонім была сціплай. Акрамя культурных і гаспадарчых спраў ягоны час адымалі спрэчкі з Радзівіламі, якія ўсё яшчэ працягваліся, канфлікт з Тызенгаўзам (апошні, аднак, дзякуючы пасрэдніцтву Хамінскага садзейнічаў, каб швагер гетмана Бжастоўскі атрымаў пасаду вялікага літоўскага скарбніка). Яго вабіла барацьба за прывілеі галоўнакамандуючага княства, і ён імкнуўся ўплываць на дэбаты ў сейміках і сейме. Нягледзячы на палітычную падтрымку з боку шматлікай залежнай ад яго шляхты, ён так і не змог дасягнуць чаго-небудзь істотнага, бо быў занадта адасоблены ад надзённых спраў краіны. Ці не пра яго выказваўся біскуп Ю.Касакоўскі: «Нашы магнаты больш за ўсё гучна балбочуць пра край, хаця яны яго не ведаюць так, як ведаць павінны». Адрыў Агінскага ад праблемаў грамадства, несумненна, павялічваўся і тым, што ў гэты час узрасла яго цікавасць да акультызму і масонства. Гетман, ужо даўно звязаны з імі, становіцца яшчэ больш актыўным у гэтай сферы, асабліва пасля таго як 27 снежня 1781 г. на агульным сходзе прадстаўнікоў масонскіх ложаў, які быў прысвечаны энергічнаму распаўсюджванню гэтага руху ва ўсходніх правінцыях, ён быў абраны «дэпутаваным вялікім майстрам правінцыі Літва».

Аматар падарожжаў і новых знаёмстваў, Агінскі зноў едзе за мяжу. У сярэдзіне 1782 г. ён знаходзіўся ў Ахене, у канцы года — у Бруселі, затым даволі доўгі час, да сярэдзіны 1785 г. — у Галандыі — Амстэрдаме і Гаазе. Тады ж ён пазнаёміўся з Англіяй.

Аднак працяглае знаходжанне гетмана за мяжою непакоіла караля, які, мабыць, адчуваў пэўную небяспеку для сябе, а можа, шкадаваў сілы выдатнага грамадзяніна, які распыляў іх у падарожжах і фантастычных інтрыгах ці ў легкадумных любоўных раманах.

У лісце ад 22 студзеня 1785 г. кароль прапанаваў Агінскаму «нарэшце закончыць свае замежныя забавы, каб дарэмна не траціць грошай», а лепш выкарыстаць іх на завяршэнне распачатых добрых спраў...

Падчас паўстання Т.Касцюшкі гетман знаходзіўся ў Вільні. Хаця і цяжка хворы, ён па-ранейшаму атачаў сябе музыкантамі, наладзіў сяброўства з Ё.Гайднам, якога настойліва пераконваў, каб той абраў тэмай сваёй новай араторыі Стварэнне Свету; не цураўся, як кажуць, іншых прыемнасцяў. У канцы 1795 г. Агінскі зноў у Варшаве; пэўна, яшчэ раз выязджаў за мяжу, каб неўзабаве пасля гэтага назаўсёды вярнуцца ў Гяленаў на сталае месца жыхарства і толькі зрэдку наведваць сталіцу — палац на вуліцы Рымарскай, атрыманы ў спадчыну ад сваёй цёткі Ганны Агінскай.

У Беларусь і Літву ён больш ніколі не вернецца. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у яго канфіскавалі Слонім, і Кацярына II прызначыла горад на рэзідэнцыю для губернскіх уладаў. Праўда, пазней цар Павел I гэтае рашэнне адмяніў, а Рапнін, сябра маладых парыжскіх гадоў Агінскага, вярнуў яму частку даходаў ад Пінскай эканоміі і гэтым у пэўнай ступені палегчыў яго цяжкае фінансавае становішча. Гетман застаўся да самай смерці ў Варшаве і прысвяціў сябе музыцы і іншым мастацкім заняткам. Памёр



ён у Варшаве 31 мая 1800 г. 11 чэрвеня пры яго пахаванні біскуп Вароніч сказаў жалобную прамову. Месца пахавання гетмана нельга вызначыць дакладна, але ў катакомбах могілкаў Павонзкі ёсць сціплы помнік з патрыятычным надпісам, які сведчыць пра сардэчныя адносіны да нябожчыка:

«Міхалу Казіміру Агінскаму, князю з Казельска, вялікаму гетману Вялікага княства Літоўскага, які за айчыну змагаўся, многа за яе выцерпеў і заўсёды ёй верна служыў. Памятку ўшанавання, жалю і ўдзячнасці гэтым паклалі слугі свайму пану. Жыў гадоў 72, памёр у 1800".

Нашы сухія і абмежаваныя ў памерах хранікальныя даследаванні пераважна грамадскага жыцця гетмана патрабуюць дапаўнення звесткамі пра яго, як асобу творчую і таленавітую. Са шматлікіх апісанняў паўстае перад намі тыповая для сваёй эпохі постаць — постаць свецкага вяльможы. Чалавека прыязнага і добрага, які ведаў, як заваяваць сімпатыі навакольных, які шчодра паводзіў сябе, калі справа тычылася грамадскіх і філантрапічных мэтаў. Ён, напрыклад, зрабіў ахвяраванні для місіянерскага кляштара і касцёла ў Смілавічах, багата яго абсталяваў. Акрамя таго, заснаваў дабрачынны фонд для студэнтаў Віленскага універсітэта. Яго схільнасць да неўтаймаванага, насычанага стылю жыцця цалкам адпавядае тагачаснай эпосе. Ёю, а таксама ў пэўнай ступені выхаваннем маладога Агінскага можна вытлумачыць некаторую яго распешчанасць, незвычайнае славалюбства і мяккасць характару. Так, яго веды былі павярхоўнымі, але бліскучымі і дастатковымі, каб зрабіць уражанне — перш за ўсё ў салонных размовах. Нам вядома, што гетман належаў да прэтэнцыёзнага, інтэлектуальнага кола, якое групавалася вакол маладога Станіслава Аўгуста. Сярод партрэтаў удзельнікаў сваіх «чацвярговых» абедаў кароль меў таксама пастэльны партрэт тагачаснага польнага пісара пэндзля Марто.

Надзвычай наіўны і даверлівы ў палітычных справах, з яскравай схільнасцю да акультных ведаў, Агінскі не аднойчы дазваляў уцягваць сябе ў незвычайныя і кампраметуючыя аферы. Нягледзячы на ўсё гэта, за ім варта прызнаць права на дзейсны патрыятызм і жаданне добрасумленна дзейнічаць на карысць свайго краю. Гэтыя пачуцці выразна перапляталіся з яго асабістымі імкненнямі да славы, з сімпатыямі і антыпатыямі; тым не меней, калі глянуць з-за куліс эпохі, гетман пазітыўна ацэньваўся многімі сваімі сучаснікамі. Сярод іх было нямала і такіх, хто перасягаў яго сваёй актыўнасцю ці сваім талентам, аднак саступаў яму ў чысціні намераў, у разуменні культурных і мастацкіх праблем.

## МУЗЫКА, МУЗЫКА...

Усе сведчанні яго сучаснікаў адзінагалосныя менавіта ў тым, што па сваіх інтарэсах, па сваёй адукацыі, больш таго — па якасцях свайго характару — гетман быў перш за ўсё чалавекам мастацтва. Найперш тут трэба сказаць пра яго пачуццёвасць (сёння мы сказалі б «сентыментальнасць»), пра яго ўнутраную ўзрушанасць, любоў да прыгожага. Мастацкія схільнасці, якія былі ўласцівы заможным прадстаўнікам тагачаснай эпохі і часта мелі дылетанцкі характар, выходзілі ў выпадку з гетманам за звычайныя межы салонных захапленняў, асабліва ў галіне музыкі. Але музыка была не адзіным відам мастацтва, якім ён захапляўся. У юнацтве Міхал Казімір з запалам аддаваўся жывапісу і маляванню. Як паведамляе Э.Лунінскі, спасылаючыся на К.Рульe, ён маляваў ландшафты, кветкі, садавіну і птушак «з лёгкасцю, элегантнасцю і дакладнасцю», а ў інвентарных вопісах маёнтка ў Гяленаве, зробленых пасля смерці Агінскага, значыцца шэраг яго ўласнаручных прац. Займаўся ён таксама і мастацкай літаратурай.

Найбольш вядома нам пра музычную дзейнасць гетмана, хаця тут таксама вельмі многа няяснага і сумніцельнага, асабліва адносна яго дзейнасці як кампазітара. У многіх крыніцах пераканаўча даказана, што ён атрымаў грунтоўную музычную адукацыю, гэта дало магчымасць выдатна валодаць рознымі інструментамі, найперш скрыпкай. Ён, відаць, вынайшаў падножку да арфы, якую пазней удасканаліў Эрард. Тагачасныя французскія мемуарысты Дзюфор дэ Шэверні і князь дэ Люін, які ў 1757 г. запісаў пра Агінскага, што той «мае вялікі музычны талент і цудоўна іграе на арфе і скрыпцы», падкрэслівалі адпаведную адоранасць будучага гетмана. Пэўна, і сам Агінскі надаваў свайму таленту вялікую ўвагу, бо, як паведамляе Дзюфор, прыехаўшы ў Парыж пасля паражэння канфедэратаў, даведзеных да разарэння і абвешчаных па-за законам, ён з'явіўся перад мемуарыстам са скрыпкай у адной руцэ і карцінай у другой і сказаў: «Вось тое, што



# Агінскі

ад сёння будзе мяне ўтрымліваць пры жыцці!» Гэты, няхай і тэатральны жэст, быў, напэўна, заснаваны на разуменні сваіх магчымасцяў і рэальным успрыняцці жыцця. Дарэчы, у 1760 г. Дзідро на працягу трох гадзін таксама слухаў ігру на арфе маладога Агінскага і вельмі высока адазваўся пра яго талент і тэхніку выканання.

Шмат падрабязнасцяў дадае нам ураджэнец і жыхар Міншчыны Міхал Ельскі, які ўзяў іх з вельмі блізкіх і самых непасрэдных сямейных успамінаў. Згодна з яго паведамленнем, гетман быў вучнем Джавані Баціста Віёці, калі той знаходзіўся ў Рэчы Паспалітай пры каралеўскім двары. Калі ж пазней Агінскі ўбачыўся з маэстра за мяжой, а таксама сустрэўся з яго вучнямі Радэ, Кройцэрам і Баё, то, пэўна, ён з імі не толькі пасябраваў, але разам і музіцыраваў, дасягаючы пры гэтым вялікай тэхнічнай дасканаласці. Пры параўнанні гадоў жыцця гэтых музыкантаў сцвярджэнне Ельскага пра сустрэчу гетмана з усімі імі адначасова, да таго ж яшчэ ў Парыжы, становіцца мала верагодным. З П'ерам Радэ і Рудольфам Кройцэрам Агінскі кантактаваў, відаць, у Аўстрыі, а з П'ерам Байлатам сябраваў не гетман, а яго пляменнік Міхал Клеафас. У Слоніме іграў ён «амаль штодзённа» — ці то першую скрыпку ў сваім аркестры, ці то сольныя партыі і канцэрты ў яго суправаджэнні. У музычна адораным родзе Ельскіх захаваліся традыцыйныя пераканнанні, што для гетмана было характэрна «чыстае гучанне тону і працяглы, гучны па поўную сілу ўдар смычка. Сольныя канцэрты іграў ён звычайна па памяці, а яго любімы рэпертуар... складалі наступныя кампазіцыі: другі канцэрт d-mol Радэ, 22, 24 і 28 канцэрты Віёці, другі канцэрт D-dur Кройцэра, вырыяцыі G-dur Радэ, канцэрт Лямота... З прыхільнасцю іграў ён канцэрты Гайдна, Бетховена і Бакерыні». Доказам таго, што гетман быў заўзятым скрыпачом, можа служыць яго багатая калекцыя скрыпак, зробленых такімі знакамітымі майстрамі, як Амаці; праўда, у інвентарным спісе мы не знаходзім абедзвюх скрыпак Страдзівары, якія ўпамінае Ельскі.

Наколькі далёка любімая музыка прасякла нават у сферу ваенных абавязкаў Агінскага, сведчыць ужо тая акалічнасць, што запрошаны ў 1790 г. Т.Касцюшкам для агляду цытадэлі ў Камянцы-Падольскім гетман найперш зацікавіўся ваеннай капэлай і за нізкі ўзровень папракнуў каменданта Арлоўскага. Пра такую ж гіпербалізацыю музычных патрэбаў сведчыць і праект дзяржаўнага бюджэту, унесены ім у час Вялікага сейма, дзе для атрада янычарскіх сцяганосцаў за 120 чалавек прадугледжвалася капэла ў складзе 14 чалавек, у тым ліку шасці трубачоў, і яшчэ дадаткова 12 флейтыстаў.

Калі асабістая ігра Агінскага, якога часам называлі «гетман-кларнет», і яго высокі ўзровень валодання рознымі інструментамі пад сумненне не ставіліся, то заўсёды паўставаў лабірынт супярэчнасцяў, калі гаворка даходзіла да кампазітарскай дзейнасці гетмана. Гэтае пытанне, аднак, можа быць канчаткова высветлена толькі тады, калі ўдасца адшукаць большую колькасць яго ўласных твораў і пры дапамозе дакладнага фармальнага аналізу параўнаць іх з творчасцю Міхала Клеафаса Агінскага і іншых кампазітараў тае эпохі. Пакуль тое не адбудзецца, застануцца ў даследаваннях гіпотэзы.

Сучаснікі гетмана, а таксама аўтары, якія чэрпалі звесткі з больш позніх крыніцаў, аднадушныя ў тым, што ён пісаў музыку, як і ў тым, што да яго спадчыны належаць оперы і камерная музыка, асабліва паланезы, якія на той час былі вельмі папулярныя і ствараліся многімі аматарамі музыкі і прафесійнымі музыкантамі. М.Ельскі нават дайшоў да сцвярджэння, што Міхал Казімір як кампазітар вышэй Міхала Клеафаса. Вядома, сёння нялёгка ўстанавіць прыкметы, якія розняць творы абодвух Агінскіх — дзядзькі і пляменніка. Калі раней амаль усе іх паланезы, «прынамсі першыя чатырнаццаць, што маюць больш даўнія прыкметы», прыпісваліся Міхалу Казіміру, дык пазнейшыя даследчыкі музыкі з такой жа некрытычнасцю залічылі іх да твораў Міхала Клеафаса. Гэта асабліва тычыцца паланеза G-dur для скрыпкі і фартэпіяна, які ў 1902 г. быў апублікаваны Ельскім з выразным намёкам на аўтарства гетмана. Аднак пазней Г.Дарабяльская і іншыя аўтары, не выказаўшы адносін да сцвярджэння Ельскага і не маючы канкрэтных доказаў, прыпісалі яго Міхалу Клеафасу, хаця гэты паланез і розніцца ад іншых яго твораў. Каб пазбегнуць паспешлівасці ў вырашэнні пытання аб аўтарстве, неабходна таксама ўлічыць той факт, што самы ранні рукапіс, які належыць да зборy паланезаў Агінскіх і знаходзіцца ў бібліятэцы Варшаўскага музычнага таварыства, мае загаловак: «12 паланезаў, напісаных яго Светласцю гетманам Агінскім для фартэпіяна з дадаткам трох новых мазурак». Гэты рукапіс, які найбліжэйшы па даце да часу ўзнікнення твораў, уяўляе сабой вельмі каштоўны дакумент — калі не для ўстанаўлення аўтарства, то хаця б погляду на яго, што быў шырока распаўсюджаны ў свой час. Адначасова, як сведчыць Г.Дарабяльская, у рукапісе — такое ж размяшчэнне паланезаў, якога прытрымліваліся ўсе пазнейшыя выдаўцы твораў Міхала Клеафаса Агінскага.

Крокам для вытлумачэння спрэчных пытанняў магло б стаць узнаўленне гіпотэз пра сумесную кампазітарскую працу гетмана і Міхала Клеафаса Агінскага, пра апрацоўку пляменнікам кампазіцый дзядзькі. Аднак для гэтага адсутнічаюць істотныя выходныя моманты, мы вельмі мала ведаем пра ўзаемаадносіны абодвух Агінскіх. Іх сваяцтва было даволі далёкім. Гетман не з'яўляўся ні бацькам Міхала Клеафаса, як лічылі некаторыя даследчыкі, ні яго прамым дзядзькам. Яны паходзілі з дзвюх розных ліній роду, агульны продак якіх (Самуэль Леў, памёр у 1657 г.) жыў у першай палове XVII ст. Адносна дзяцінства і юнацтва пазнейшага скарбніка Вялікага княства Літоўскага, мабыць, многа каштоўнага распавёў бы ягоны дзённік, даведзены да 1788 г. Дзённік, аднак, не захаваўся — быў знішчаны ў 1944 г. у Варшаве разам з іншымі матэрыяламі бібліятэкі ў Рапэрсвілі. Надрукаваныя ж мемуары, што ахоплівалі пазнейшыя гады, няшмат надаюць увагі асобе гетмана, абмяжоўваючыся толькі некаторымі дэталямі. Таму ўсе згадкі пра блізкія асабістыя кантакты абодвух Агінскіх і знаходжанне маладога Міхала Клеафаса ў Слоніме можна залічыць да сферы гіпотэз. Адно толькі дакладна вядома, што вялікі літоўскі скарбнік набыў ад свайго дзядзькі маёмасць, якая была закладзена, і што з гэтае прычыны ў апошнія гады жыцця гетмана іх адносіны сталі блізкімі і, як вынікае з некаторых лістоў, вельмі сардэчнымі.

І ўсё ж даводзіцца сумнявацца, ці перайшла рухомая маёмасць і асабліва музычная спадчына, якая нас цікавіць, пасля смерці гетмана ў рукі Міхала Клеафаса. У 1798 — 1801 гг. апошні правёў шмат часу за мяжою і, як паведамляў у сваім дзённіку, жыў аддалены «ад усіх спраў, бяздзейсны і ў беднасці», у вёсцы і пры сям'і сваёй жонкі. З прэтэнзіямі на спадчыну гетмана выступілі тады бліжэйшыя родзічы — яго сёстры Пшаздзецкая, Плятар, Бжастоўская, Вяльгорская. У іх рукі пераважна трапіла ўсё, што знаходзілася ў Варшаўскім палацы і замку ў Гляневе, якія не былі ўключаны ў дагавор паміж абодвума Агінскімі. Там знаходзілася і музычная спадчына, сярод якой, аднак, адсутнічалі названыя вышэй творы. Магчыма, яшчэ пры жыцці гетман сам прадаў іх пляменніку, або яны перайшлі ва ўласнасць Міхала Клеафаса пазней. Працэсы, звязаныя з яго правамі на спадчыну, прэтэнзіямі і абавязкамі, цягнуліся больш за 25 гадоў...

Не выяўлена таксама, ці засталася музычная спадчына ў Целяханах. А якраз там маглі знаходзіцца паперы, якія ўяўляюць для нас цікавасць. Найбольш верагодным, аднак, можа быць меркаванне, што нотныя матэрыялы ўжо раней былі перададзены Міхалу Клеафасу (калі лічыць, што паланезы дзядзькі паслужылі пляменніку асновай пры публікацыі яго ўласных твораў). Пэўна, гэта не павінна адносіцца да ўсёй музыкі гетмана, хаця найноўшыя даследаванні — праўда, праведзеныя ў іншым ракурсе, ставяць пад сумненне таксама яго аўтарства оперы «Зеліс і Валькур». Канчатковым адказам на ўсе гэтыя пытанні можа стаць толькі глыбокі фармальны аналіз, прычым абавязкова павінны ўлічвацца і гістарычныя моманты. Толькі яны маглі б высветліць і аўтарства санаты A-dur для скрыпкі і лічбавага кантрабаса з надпісам «К.Агінскі», напісанай ў стылі мангаймскай школы. Гэтую санату, што цяпер знаходзіцца ў Шверыне, Эйтнэр прыпісваў гетману.

Не поўнасцю высветлена таксама пытанне пра оперную музыку гетмана. Самыя апошнія даследаванні прызнаюць яго аўтарам лібрэта і музыкі да «Елісейскіх палёў», — оперы, якая пастаўлена ў 1788 г. у Слоніме і ў тым жа годзе надрукавана ў другім томе «Баек і не баек», а таксама аўтарам музыкі да «Цыган» (лібрэта Ф.Д.Князніна) — оперы, паказанай у Седльцах у 1786 і 1788 гг. А.Мілер, а пасля і З.Яхімецкі таксама лічылі яго аўтарам опер «Зменены філосаф» (1771) і «Сілы свету». Л.Бярнацкі прыпісвае яму яшчэ і «Тэлемаха», затое «Елісейскія палі» лічыць творам Міхала Клеафаса.

**Пераклад з нямецкай Уладзіміра Сакалоўскага.**



*На здымках:*
1. На ўскраіне Слоніма, XVIII ст.
2. Слонім. Касцёл святога Андрэя, канец XVIII ст.
3. Слонімская сінагога, XVII ст.




# КАЛІГРАМЫ

П
Р
Ы
ВІ ТА
НЬНЕ
СЬВЕТ
ВЫРАЗ
Н А Й
ЗЬЯЎЛЯЮСЯ
М О В А Й
І ТВОЙ РОТ
О ПАРЫЖ
СТРАЛЯЕ І ЗАЎСЕДЫ
БУДЗЕ СТРАЛЯЦЬ
У НЕМ Ц А Ў

З яго вершаваных радкоў нарадзілася паэзія XX стагоддзя. Неспакойная, эксперыментатарская, непадпарадкаваная ўсталяваным нормам і канонам — авангардная. А сам ён, сэрцам і розумам прасякнуўшыся дасканалай французскамоўнай культурай, душою — захаваў спракаветную глыбіню сваёй прарадзімы — Навагрудчыны, якая падаравала свету не адзін талент. Гіём Апалінэр — нашчадак роду беларускай шляхты Кастравіцкіх, змагароў за волю і незалежнасць Радзімы, што змушаныя былі пакінуць яе ў выгнанні.

Слаўная была і прабабка паэта Людвіка з роду Кастравіцкіх, якую ўхваляў у вершах Адам Міцкевіч за яе палымяны патрыятызм. І гэты патрыятызм аб'ядноўвае, набліжае абодвух навагрудскіх парыжан, бо абодва тварылі ў слынным горадзе на Сене, хоць і ў розныя часы там жылі. Адам у 1834 годзе выдаў там напісаны свой вялікі твор аб Радзіме — паэму «Пан Тадэвуш». Гіём з 1900 года распачаў эпоху авангарда, стаўшы ў ёй Першым паэтам нашага стагоддзя. Не толькі намінальна, храналагічна, але і па сваёй значнасці. Ён быў жывым увасабленнем, духоўным лідэрам, «магнітам», жывапісальнікам легендарнага і герaічнага, творчага і незалежнага асяроддзя, што гуртавалася вакол майстэрняў і кавярняў Манмартра і Манпарнаса ў першыя парыжскія дзесяцігоддзі нашага бурлівага і неўтаймаванага веку. І ўсе лепшыя творцы, сучаснікі Апалінэра — П.Пікаса, А.Маціс, В.Лембрук і іншыя — яму ў многім абавязаныя. Як першаму іх крытыку, што іх заўважыў і падтрымаў, як ідэйнаму натхніцелю, што не баіцца прагназаваць шляхі да небывалага-новага. Нездарма менавіта яму належыць тэрмін «сюррэалізм» і многае іншае, як у мастацтвазнаўстве, так і ў літаратуры.

Непаўторнальнае наватарства яго паэзіі, дзе слова паўстае як магічны знак, ідэаграма, шматзначны сімвал, поўніцца пошукамі самых нечаканых, здзіўляльных асацыяцыяў, думак, вобразаў, выразаў. Сказы настолькі самастойныя, што абыходзяцца без знакаў прыпынку. Рознаварыянтнасць прачытання без кропак і косак бязмерна павялічаная, як у арнаментыцы беларускага ручніка, дзе прыхавана ад першабытнасці таямніцы, што лучаць зямлю і космас, суб'ектыўнае і вечнае.

Мо самым радыкальным літаральна-сэнсавым і каліграфічна-фігуратыўным сродкам ягонай паэзіі сталі каліграмы. Ён здольны быў маляваць словамі-выявамі затоены сэнс, літаральна візуалізаваў тое, што можна ўбачыць, прачытаць толькі праз парушэнне звычайнага ладу і статычнасці слоўных знакаў. І ў гэтым «разбуральным» буянні творчасці — найвышэйшая воля! Яна так натхнёна і паўнавартасна выявілася ў апошнім зборніку «Каліграмы» (вершы і паэмы аб міры і вайне, 1913 — 1916 гг.). Цяжка паранены на фронце, Гіём Апалінэр праз два гады пасля напісання выдатнейшага па авангарднасці задач твора адыходзіць ад жыцця, а разам з ім затухае аўра ягонай гераічнай парыжскай эпохі, якая прамянілася, дзякуючы яго і, яго паплечнікаў творчым узнясенням.

Але аўра гэтая, разам з тым, неўміручая, бо яна жывіць сваім творчым духам тое эстэтычнае, інтэлектуальнае гарэнне, што развіваецца ў пару духоўнага самавыпрабавання ў пераломныя часы. Усё гэта так тыпалагічна падобнае да стану нашае сённяшняе беларускае культуры, з яе катастрафізмам і ўсплёскамі новых формаў. Што ж, Парыж напачатку, а Менск напрыканцы стагоддзя будзе праменіць аўрай авангарднасці? Гэта здаецца неверагодным! Але такая нечаканая думка, пэўна, прыйшлася б даспадобы наватару і спадкаемцу ўсяго магчымага з немагчымым —Апалінэру, тым болей, што размова ідзе пра радзіму яго бацькоў і дзядоў.

Нездарма, трапіўшы калісь у фондасховішчы Нацыянальнай бібліятэкі рэспублікі, другое парыжскае выданне 1925 года «Каліграмаў» толькі цяпер дачакалася сваіх першых беларускіх перакладчыкаў. Маладая менская паэтка Кацярына Мяшкова, што ў маленстве выхоўвалася ў французскамоўным асяроддзі Алжыра, дэбютуе з перакладам гіёмаўскай каліграмнай сваволі на беларускі лад. Заўважым, робіць гэта вельмі блізка да арыгінала. Яе творчы сааўтар — Міхась Баразна. Гэта ён «пераклаў» каліграмы праз сродкі камп'ютэрнай графікі, захаваўшы ўсе асаблівасці літарамалявання.

Думаецца, што сам Апалінэр толькі б вітаў такую мадэрнізацыю ў каліграмным адлюстраванні яго вобразаў, бо сам шанаваў усё эксперыментальнае, нечаканае, неапрабаванае. Тым больш, калі яно дапамагае пaскорыць знаёмства з яго творчасцю, яшчэ такой няведама-таямнічай, неперажытай нашымі патэнцыяльнымі прыхільнікамі яго таленту.

З выдання 1925 года паходзяць і змешчаны тут дрэварыт П.Жудона, выкананы паводле малюнка П.Пікаса з натуры ў 1916 годзе, калі яго сябра толькі што ачуняў ад лазарэта, намогся і пачаў рыхтаваць свой славуты зборнік да першага выдання 1918 г.

Яўген ШУНЕЙКА.

ЗВАЯВАНЫ ГОЛУБ
І ПЫРСКІ ФАНТАНА

закалатыя
Чулыя вобразы, С алодкія мілыя вусны
МІЯ МАРЭЕ
ІВЕТ ЛАРЫ
АНІ і ты МАРЫ
дзе жа
вы о
юныя дзяўчыны
АЛЕ
побач
з фантанам, што
плача і просіць
гэты голуб у захапленьні

Сьвежыя ўсе успаміны ?
О, сябры мае, што пайшлі на вайну
Дзе цяпер Рэйнал, Білі, Даліз
Імены якіх гучаць жалобна
Струменьнямі б'юць у неба
Нібы крокі ў храме
І вашы позіркі ў ціхай вадзе
Дзе Крэмніц, які ў войску
Смутна гаснуць
Можа яны ўсе памерлыя
Дзе яны, Брак і Макс Жакоб
Душа мая поўніцца ўспамінамі
Перад шэрымі вачыма
і фантан плача над маім болем

ТЫЯ, ШТО ПАЙШЛІ НА ВАЙНУ НА ПОЎНАЧ, ЗМАГАЮЦЦА ЗАРАЗ
О
Вечар надыходзіць крывавае мора
Сады ў крыві поўныя ружовых лаўраў для ваяра

# ГІЁМ АПАЛІНЭР

Л Ч
Я А
Ж Б
А
Ч а
О
Ы
Я
ПАЛЮ П
БОЎНІКІ
ВЫ
ВЫ
АД АД
ДЗЯ МА
ЛЯЕ ІХ
ЦЕ ЧЛЕ
СЯ НАЎ

ПРЭ З Е Н
Т Ы З
П А РЫЖУ
П А
Д А ВАЙНЫ
ЯНЫ БУДУЦЬ
Н А Д Т А
ПЯШЧОТНЫМІ
П А С Ь Л Я
П Е Р А М О Г І

**У кінематографе зараз склалася няпростая сітуацыя. Крызіс, што ахапіў краіну, закрануў і кіно. Але, нягледзячы на ўсе цяжкасці, беларускія кінамайстры працягваюць радаваць гледачоў цікавымі і яркімі фільмамі. У Беларускім цэнтры маладых кінематаграфістаў, якім кіруюць дырэктар Аляксандр Горанец і старшыня праўлення цэнтра Сяргей Бондараў, заканчваецца праца над новай каляровай мастацкай кінастужкай «Хачу ў Амерыку», што ствараецца на базе кінастудыі «Беларусьфільм». Творчы калектыў БелЦМК змог знайсці аднадумцаў і фінансістаў, якія вырашылі зрабіць уласны ўнёсак у справу дапамогі нацыянальнаму кінематографу і крэдытавалі пры садзейнічанні страхавой кампаніі «Альвена» вытворчасць фільма. Гэта Упраўленне акцыянернага камерцыйнага Белпрамбудбанка Мінскай вобласці, Упраўленне Белбізнесбанка па Мінскай вобласці, Ашчадны банк Рэспублікі Беларусь і сумеснае прадпрыемства «СЕН». Супрацоўніцтва з гэтымі сур'ёзнымі і салідны́мі фінансавымі партнёрамі дало рэальную магчымасць зняць цікавую карціну, тым болей, што і сцэнарый, напісаны Яраславам Філіпавым, выглядаў вельмі незвычайна. А калі вы даведаецеся яшчэ, што фільм ставіць папулярны кінаакцёр, а ў апошнія гады — і рэжысёр Сяргей Ніканенка, то ўсялякія сумненні ў сапраўднасці сказанага вышэй знікнуць самі па сабе, бо гэты таленавіты майстра айчыннага кіно добра вядомы не аднаму пакаленню гледачоў, і кожная новая работа, акторская ці рэжысёрская, нязменна радуе ўсіх высокім прафесіяналізмам.**

# БЕЛАРУСКІ ГАЛІВУД СЯРГЕЯ НІКАНЕНКІ

## Са здымачнай пляцоўкі

Не стаў выключэннем і фільм «Хачу ў Амерыку». У цэнтры гэтага арыгінальнага ў жанравастылёвых адносінах кінавідовішча малады здольны студэнт, супервынаходніцтва якога апынулася ў полі двухбаковай увагі айчыннай і заходняй спецслужбаў. Але стужка магла б і застацца ўсяго толькі захапляльнай, дынамічнай камедыяй, пабудаванай на «паляванні» за. вынаходнікам і ягоным дзецішчам, калі б не магутны паток стваральнай аўтарскай іранічнасці, уласцівай творчай манеры Сяргея Ніканенкі. Дзякуючы гэтаму камедыя набыла якасці вострасатырычнай пародыі на сучасны пацяшальны кінематограф.

Тут да ладу згадаць, як у зусім нядаўнія часы наш кінематограф паказваў моцныя і жахлівыя спецслужбы КДБ і ЦРУ. Асабліва характэрнымі з'яўляліся вытрыманыя ў ідэалагічных адносінах суровыя «Рэзідэнты»... Нашы чэкісты, безумоўна, «заўсёды на варце», знаюць усё і ўся, надзейны «шчыт і меч». Забугорныя ж спецслужбы — бясконцыя інтрыганы, дыверсанты, «цэрберы капіталізму, які дагнівае».

Але вось рухнула нарэшце з'едзеная іржою «жалезная заслона». Цяпер краіны былога Саюза і Амерыка ўжо глядзяць адна на адну не як на нейкіх монстраў, а наадварот, са спадзяваннем і добразычлівасцю. Новая сітуацыя — новае і кіно.

... Таленавіты студэнт Ігар вынайшаў цудадзейны агрэгат, здатны спыняць рухавікі машын і самалётаў на адлегласці. Навуковы эксперымент пераўзышоў усе спадзяванні. Безумоўна, усё гэта робіцца вядомым ЦРУ. За Ігарам і ягоным вынаходніцтвам пачынаецца сапраўднае паляванне. Нейкая амерыканская фірма запрашае хлопца працаваць у сябе, а дачка мілянера, Нора Эпштэйн, хоць зараз гатова пабрацца шлюбам са студэнтам.

Генерал дзяржбяспекі Іван Іванавіч даручае лейтэнанту Наталлі Загарулька, не грэбуючы сродкамі, перашкодзіць шлюбу Ігара з амерыканкай, для чаго дазваляе скарыстаць новую сакрэтную зброю, народжаную ў нетрах закрытага НДІ: пнеўматычны пісталет сістэмы «Амур», які страляе мікраскапічнымі ампуламі, што выклікаюць вострыя прыступ закаханасці...



Лейтэнант Загарулька зброю скарыстала, пры гэтым у парыве гневу стрэліла ў Ігара не адзін раз, як у інструкцыі, а некалькі. Вось тут усё і закруцілася!..

А далей гледачы зробяцца сведкамі яркай камедыйнай дзеі, у якой будзе ўсё: і неверагодныя прыгоды герояў, у тым ліку і сексуальныя (пісталецік дзейнічаў вельмі актыўна), і тайная барацьба сакрэтных службаў, паказаная з сакавітым гумарам і нават гратэскам... Сюжэт фільма раскручваецца імкліва і непрадказальна, а фінал у выніку ўзрадуе нас «хэпі эндам».

Чамусьці вельмі хочацца, каб з'яўленнем гэтай яскравай кінакамедыі Сяргея Ніканенкі скончылася паласа кан'юнктурнага «чарнушна-парнушнага» кіно, ад якога смяротна стаміўся айчынны глядач. Людзям хочацца адпачыць ад будзённасці, і новая стужка дасць ім такую рэдкую на сённяшні дзень магчымасць. У ёй ёсць штосьці такое, няўлоўна знаёмае, што раней прагучала б як суровае абвінавачванне, а зараз гучыць як павага — стужка зроблена ў духу Галівуда, па ягоных правераных практыкай і часам канонах.

Безумоўна, асаблівую цікавасць фільму надае выдатная ігра занятых у ім зорак і проста добрых акцёраў. Імёны Алега Табакова, Інакенція Смактуноўскага, Валянціна Гафта, Таццяны Васільевай, Веры Сотнікавай нязменна вымушаюць трапятаць сэрцы прыхільнікаў кіно. Як акцёр бярэ ўдзел у карціне і Сяргей Ніканенка. Хочацца адзначыць і яркую трактоўку вобразаў Міхаілам Палатнікам, Вольгай Талсецкай, Сяргеем Кандрыкавым ды іншымі выканаўцамі.

Дынамічнасць і яркая відовішчнасць аператарскай работы Васіля Сікачынскага,



арыгінальнасць выяўленчага рашэння фільма мастаком Ігарам Тапіліным, пранікнёная меладычнасць музыкі і песень Георгія Маўсесяна — усё гэта таксама вартае глядацкай увагі.

І яшчэ адзін важны момант. Пагадзіцеся: у вірлівай стыхіі рынку зняць фільм без цвёрдых гарантаваных сродкаў — справа вельмі нялёгкая. Але гэтыя і многія іншыя не меншай складанасці і маштабнасці праблемы, што ўзнікалі падчас здымак, з поспехам вырашае цудоўны кінаарганізатар, выканаўчы прадзюсэр фільма Людміла Цімашэнка. З поспехам дапамагаў ёй і другі выканаўчы прадзюсэр Уладзімір Іваноў.

Р.КАРОТКІ.

На здымках — эпізоды з фільма «Хачу ў Амерыку».

# ТАЛЕНТ ЗАХАВАЛЬНІКА



Перш чым «паказацца» наведвальнікам, экспанаты мусяць прайсці «праз розум і сэрца» музейнага супрацоўніка. Менавіта ён — своеасаблівы фільтр-сувязны на шляху атрыбутаў гісторыі да сучасніка.

Паняцце «музейны захавальнік» нараджае ўзвышаныя асацыяцыі. Яму дадзена зберагчы каштоўныя сведчанні мінуўшчыны і звярнуць на іх нашу ўвагу, калі гэта, як піша Ю.Дамброўскі, — захавальнік...

Такая вось Ніна Іванаўна Ляшчонак — галоўная захавальніца Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі ў Гродне. Пакручастым быў яе шлях да музея. На працу сюды яна прыйшла ў 33 гады. А нарадзілася ў Сібіры, скончыла філфак Краснаярскага педінстытута. Склалася так, што доўгія гады ёй давялося пераязджаць з месца на месца. У Гродне першай кватэрай сям'і сталі муры базыльянскага кляштара, дзе фундаваўся новы музей. Было гэта амаль 15 гадоў таму. Тады маладыя супрацоўнікі самі выпрацоўвалі канцэпцыю музея, прынцып адбору, фармавання фондасховішча. У тыя гады ў новым Музеі гісторыі і рэлігіі складаўся калектыў маладых супрацоўнікаў. Ніне Іванаўне і яе калегам пашанцавала: імі кіраваў цікавы чалавек, пісьменнік, знаўца беларускай культуры Аляксей Нічыпаравіч Карпюк.

Адна дэталь іх працы: у адпаведнасці з інструкцыямі, усе новыя рэчы павінны былі заносіцца ў кнігу заліку на працягу трох дзён. Пры аб'ёме паступленняў да 7 тыс. адзінак штогод Ніна Іванаўна ніколі не адступала ад гэтых тэрмінаў, працуючы да дзесяці — адзінаццаці вечара. Ды новы экспанат трэба яшчэ «распытаць», каб вызначыць, якога ён часу, з чаго зроблены і які меў лёс, пакуль трапіў у музей. Мастацтва «распытвання» прадметаў — асаблівая таямніца працы захавальніка, яго майстэрства.

Ніна Іванаўна сустракалася з вопытнымі знаўцамі — супрацоўнікамі гістарычнага і мастацкага музеяў у Мінску. Л.Д.Клок, адзін са старэйшых прафесіяналаў, стаў назаўсёды яе сябрам і кансультантам.

У музеі склалася добрая калекцыя старажытных кніг, рукапісаў, карцін, скульптуры, прадметаў народнага мастацтва. Толькі за апошні час у фондасховішча паступілі архівы газет 20-30-х гг.: «Хрысціянская думка», «Шлях моладзі», «Беларуская крыніца», «Беларускі дзень» і інш., «нашаніўская» перапіска братоў Луцкевічаў з карэспандэнтамі газеты. Шмат душы ўклала Ніна Іванаўна ў тое, каб музей набыў частку бібліятэкі Адама Станкевіча. Зараз Станкевічавы збор — унікальная крыніца для даследчыкаў беларускай культуры. Тут захаваліся непаўторныя і адзіныя выданні, без якіх немагчыма ўявіць беларускае адраджэнне пачатку XX стагоддзя. Госці музея з удзячнасцю гавораць: «Мы аб'ехалі столькі бібліятэк, архіваў, а глянь, усё ляжыць у вас».

Па ініцыятыве захавальніцы адбылася першая навукова-збіральная экспедыцыя сумесна з аддзелам старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук Беларусі.

Павольна, пакрысе фармаваўся ўласны погляд захавальніцы на музейны этыкет, складваўся кодэкс яе служэння.

Калекцыянеры Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расіі перапісваюцца з Н.І.Ляшчонак. Сталыя сувязі з музеем маюць многія народныя майстры. Дзед Міхась Валуевіч, разьбяр з Астравеччыны, самым дарагім і аўтарытэтным для сябе чалавекам лічыў Ніну Іванаўну і сваю творчую спадчыну пакінуў музею. У лёсе захавальніцы ёсць яшчэ адзін цікавы факт. Ніна Іванаўна адшукала сваіх продкаў. Высветлілася, што яны паходзяць з Беларусі. Ніна Іванаўна заўсёды лічыла сябе сібірачкай. Але сустрэла людзей, якія засведчылі, што яе дзед з сям'ёй у 1906 годзе рушыў у Расію. Сібірская бабка Аўгіння (так і завуць яе на беларускі лад), штосьці тлумачачы Ніне Іванаўне, неяк вымавіла: «Спрадвеку так было». Гэтая быццам памылка ў мове бабкі гаворыць, што беларускасць у іх яшчэ жыве, хаця самі пра яе яны ўжо не памятаюць. Толькі на крыжах па беларускай традыцыі вісяць вышываныя ручнікі...

Аднаўляючы свой радавод, Ніна Іванаўна знайшла не толькі радзіну, але і Радзіму, і ў гэтым таксама выявіўся яе талент —талент захавальніка.

Вольга ГАРШКАВОЗ.

Гарбата, вядома, не з'яўляецца нашым нацыянальным напоем, але наўрад ці знойдзецца сёння на Беларусі дом, у якім абыходзяцца без ранішняга або вячэрняга кубачка гарбаты. Раніцой гарбата надае бадзёрасць, увечары праганяе стому. Як сказана ў адной старой поварскай кнізе, «гарбата змякчае сэрца, умацоўвае дух, асвяжае цела». Леў Талстой лічыў нават, што гарбата выслабаняе сілы, якія дрэмлюць у нашай душы. Без кубачка гарбаты не ладзіцца ні ціхая сяброўская гутарка, ні шматлюдная вечарына.

Менавіта за кубачкам гарбаты мы хочам распачаць гаворку пра культуру, так бы мовіць, на кожны дзень.

Некалькі звестак з гісторыі напоя.

Слова «чай» кітайскага паходжання, што значыць — «малады лісток». Упершыню заўважылі яго цудоўныя ўласцівасці пастухі, назіраючы, як паводзяць сябе жывёлы, калі наядуцца гэтых «маладых лісточкаў». Здарылася гэта за пяць тысяч гадоў да нашых дзён, і на працягу стагоддзяў гарбата зрабілася самым распаўсюджаным пітвом усяго людства.

Сучасная медыцына вельмі станоўча ацэньвае ўздзеянне гарбаты на чалавечы арганізм: яна танізуе нервовую сістэму, узмацняе кровазварот, павышае працаздольнасць дзякуючы ўздзеянню кафеіну, які з'яўляецца адным з яе кампанентаў. Другі яе кампанент — танін — садзейнічае ўмацаванню крывяносных сасудаў. Акрамя таго, гарбата садзейнічае захаванню ў арганізме вітаміна «С».

У розных краінах гарбату, вядома, гатуюць па-рознаму. І п'юць яе з мёдам, малаком, варэннем, безумоўна, з цукрам... Для тых гатункаў гарбаты, якія спажываем мы, найбольш падыходзіць так званы англійскі спосаб, калі заварка засыпаецца абавязкова ў сухі падагрэты чайнічак, а потым ужо заліваецца кіпенню і настойваецца пяць хвілін. І яшчэ варта запомніць, што англічане, якія любяць піць гарбату з малаком, ніколі не ліюць малако ў гарбату, а наадварот — гарбату ў малако, што спрыяе лепшаму арамату і смаку напоя. І апошняе: калі хочаце, каб гарбата была духмяная, смачная і моцная, — не шкадуйце заваркі. Менавіта ў гэтым галоўны сакрэт. Сакрэт просты, хоць па цяперашнім часе — не надта танны.




# «НЕ ТРЫВОЖЦЕСЯ, ХАРЧУЙЦЕСЯ РЭГУЛЯРНА»

**Сёння ў нас — першы госць, назавем яго Псіхолагам, з якім гутарыць спадарыня Рэгіна.**

— Пан прафесар, мне здаецца, што ўсе нашы пакуты, хваробы, бяссонніцы, стрэсы напрамую залежаць ад культуры, ці, дакладней, наадварот — ад бескультур'я. Я сказала б: недасканалы сацыяльны і палітычны лад — вынік нізкага ўзроўню культуры грамадства.

— У пэўнай ступені вы маеце рацыю. Культура, безумоўна, уплывае на ўсё, аднак не непасрэдна, а «апасродкавана», праз розныя субстанцыі.

— Мне здаецца, што на нашых вуліцах, у магазінах ды й на кухнях пануе інфекцыя бескультур'я, вірус, які з'яўляецца прычынай большасці ўсіх так званых крымінальных спраў. Не гаворачы ўжо пра стрэсы.

— Калі хочаце пра стрэсы, дык зазначу, што вучоныя выявілі нават узроўні стрэсаў — у балах. Напрыклад, бурна адзначанае свята мае высокую цану не толькі ў рублях, яно яшчэ абыходзіцца чалавеку ў дванаццаць стрэсавых балаў. Няправільная паркоўка аўтамабіля — 11 балаў (плюс штраф). Развод — 79 балаў. Пахаванне блізкага — 100. А больш за 200 адзінак нервовага стрэсу чалавек ужо не вытрымлівае...

— Як жа пазбегнуць гэтага?

— Гаворка тут сур'ёзная і доўгая, і наўрад ці яна падыходзіць да гасцёўні. Аднак магу даць параду, якім чынам можна хуценька давесці сябе... да інфаркту. Па-першае — варожасць літаральна да ўсіх. Нікому не давярайце, старайцеся ўвесь час на каго-небудзь злавацца, пры гэтым у вас павінен быць пахмурны твар, моцна сцятыя сківіцы, рухі павінны быць рэзкія, агрэсіўныя. Да таго ж у вольны час размаўляйце толькі пра работу, заўсёды куды-небудзь спяшайцеся, усё прымайце ўсур'ёз і ніколі не ўсміхайцеся. Інфаркт вам гарантаваны...

— Вы жартуеце, а я сур'ёзна. Сёння на кожным кроку цябе нехта правакуе на хамства: і ў магазіне, і ў тралейбусе. Кожны дзень нехта імкнецца цябе зняважыць, ды так, што немагчыма не адказаць тым жа.

— Так, так! Закон «вока за вока, зуб за зуб», літаральна так ён і быў сфармуляваны ў старажытным Вавілоне, аказаўся законам на ўсе часы. Праўда, сёння ён фармулюецца крыху інакш: «Ах, ты гэтак?! Ну, дык і я гэтак жа!» Калі этычныя нормы і проста нормы звычайнай ветлівасці адсутнічаюць, іх месца займае вульгарнае хамства. Адбываецца парушэнне балансу ўзаемаспагадлівасці.

— Як жа ўстанавіць такі баланс?

— Парада першая. Калі вас абразілі, не лезьце адразу ў сварку, адступіце на крок і паглядзіце на канфлікт (і на сябе!) з боку. А потым ужо дзейнічайце. І не па волі абставін, а як іх уладар. Гэта значыць — не імпульсіўна, а разважліва.

— Абавязкова трэба адступіць на крок?

— Не ўсміхайцеся! У псіхалогіі ёсць паняцце «дыстанцыя ўзаемаадносін», нават падлічаны максімальныя адлегласці, якія трэба захоўваць, напрыклад, пры размове. Калі вы будзеце дыхаць свайму субяседніку літаральна ў твар, налягаць на яго, хапаць яго за рукі, за пляцо, дык вы, безумоўна, загоніце яго, што называецца, у кут, і ён палічыць вас настырным, нахрапістым, хай сабе вы і маеце рацыю. Існуе яшчэ дыстанцыя псіхалагічная, якая звязана з такім паняццем, як тактоўнасць. Калі ва ўзаемаадносінах паміж пэўнымі людзьмі псіхалагічная дыстанцыя ўстаноўлена правільна, аптымальна — узаемаадносіны будуць нармальнымі, калі не — не пазбегнуць канфлікту. Хіба не пакутуем мы часам ад надакучлівай увагі да сябе,калі чалавек у любы дзень і час можа прыйсці да цябе ў госці, без залішняй далікатнасці лезе ў твае асабістыя справы, дае парады, вучыць, як кажуць, жыць. З самымі, вядома, добрымі намерамі, а ты гатовы яго ледзь не ўзненавідзець! Бо парушана псіхалагічная дыстанцыя, парушана мяжа, за якую ўваход забаронены нават і блізкім, калі яны няпрошаныя.

— Цалкам пагаджаюся з вамі. Але як устанавіць, як выбраць гэтую правільную псіхалагічную дыстанцыю?

— А гэта ўжо залежыць ад вашай культуры. Наогул, калі вы хочаце быць чалавекам далікатным, тактоўным, калі ні ў якім разе не жадаеце ўпадабляцца тым, пра каго мы толькі што гаварылі, трэба самавыхоўвацца. Існуюць выпрабаваныя правілы, якія можна назваць «кодэксам культурнай асобы». Напрыклад, кожнаму чалавеку можна параіць кіравацца правіламі Дэйла Карнэгі, славутага амерыканскага псіхолага. Вось — некаторыя з іх.

1. Пазбягайце крытыкі і абмяркавання паводзін сваіх саслужыўцаў, знаёмых, сяброў.

2. Выказвайце шчырую цікавасць да людзей, вучыцеся іх уважліва выслухоўваць. Уважліва выслухаць чалавека — гэта ўжо на 90 % яму дапамагчы, таму што магчымасць выказацца, раскрыць душу з'яўляецца самай дзейснай тэрапіяй для яе.

3. Дапамагайце людзям адчуваць уласную значнасць, бо кожны чалавек мае патрэбу ў пацверджанні сваёй значнасці ў вачах іншых, аб чым мы, на жаль, часта забываем, асабліва калі маем справу з людзьмі, якія крыху ніжэйшыя за нас інтэлектуальна альбо эмацыянальна. Пыха ў дачыненні да такіх людзей — грубая памылка, бо павялічвае колькасць нашых нядобразычліўцаў, калі не ворагаў...

4. Запамінайце імёны. Імя — адзін з найбольш прыемных для субяседніка кампанентаў вашай гутаркі, вядома, калі ваш субяседнік — новы знаёмы, наведвальнік, партнёр.

5. Прытрымлівайцеся добразычлівасці да любога чалавека. Негатыўнасць адштурхоўвае, насцярожвае, прымушае да агрэсіўнай самаабароны.

І, нарэшце, галоўнае і, здавалася б, самае лёгкае: усміхайцеся! Няўсмешлівыя твары ціснуць на псіхіку, нараджаюць кепскі настрой, як асенні дождж, як панурыя хмары, а ўсмешка —хай сабе гэта гучыць банальна! — тое ж сонейка. Сонейка надзеі, сонейка прыязні, сонейка падтрымкі ў цяжкіх варунках. Цяжка ж усім, не толькі вам.

— Згода. Аднак усе гэтыя правілы разлічаны на нейкага тэарэтычнага суб'екта, якога, дапусцім, можна пабудаваць па ідэальнай схеме. А як быць з жывым чалавекам?

— Калі не давяраеце парадам вучоных, дык паслухайце аднаго з самых вясёлых людзей на свеце — Бернарда Шоў: «Не трывожцеся, харчуйцеся рэгулярна, мужайцеся, памятайце, што найлепшы танізуючы сродак — чароўная жанчына, лепшыя лекі — бадзёрасць».

— Гэта парада для мужчын. А для жанчын? Відаць, тое ж самае. І галоўнае — заставацца жанчынамі, прытым — прывабнымі.

**Дыялог з Псіхолагам пабудаваны на падставе кнігі А.В.Талстых «Сам-насам з усімі».**


Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА

выдаецца з кастрычніка 1991года

*Заснавальнік —* Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

**Рэдкалегія:**

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Віталь ТАРАС

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД

Камп'ютэрная вёрстка — Віктар ДНЯПРОЎСКІ

Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220050, МІНСК (МЕНСК), вул.КІРАВА, 25, кв. 12. Тэлефон: 27-83-18

©

Фармат А3. Індэкс 63875 Агульны наклад 11402 Замова 185

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом Друку".

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.


